# Праграма тэлебачаньня з 14 чэрвеня па 20 чэрвеня

## •• Понедельник, 14 июня ••

Праграму тэлеканалаў мы друкуем на замову чытачоў. Гаспадары праграмы падаюць нам яе на расейскай. Рэдакцыя фізычна (па часе) не пасьпявае яе перакласьці. Просім разглядаць гэтыя старонкі як тэхнічна-службовы матэрыял, які ня мае дачыненьня да зьместу й характару нашай газэты.

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00,15.00, 17.00, 19.00, 0.10 Новости.
8.05 Резонанс.
8.53 Выпускной экзамен по математике за курс базовой школы.
9.15 Потребительская корзина.
9.30 Телебарометр.
9.45 "Сегодня с вами..."
10.10 Здоровье.
10.35 Мультиклуб.
11.10 Новые имена.
11.20 "Верность любви".
12.05 Теленавигатор.
12.25 Музыкальный салон.
15.15 "Боишься ли ты темноты?".
15.40 Мультфильмы.
16.15 "Заговоры бабы Саши".Видеофильм.
16.35 Авто-парк.
16.45 Премьера песни.
17.15 "А музыка звучит..."
17.45 "Время и люди". Телеочерк.
18.05 "Верность любви".
18.50 Новые имена.
19.15 Политические диалоги.
19.40 Спортивные новости.
20.00 Добрый вечер, Беларусь!
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 "Возьму твою боль". Х/ф.
23.30 Криминальная хроника.
23.35 Белорусский хит-парад.
23.40 Третий тайм.
0.20 КВН. Чемпионат Беларуси. 1/4 финала.

### ОРТ

7.00 "Садко—богатый гость". Мультфильм.
7.20 Музыкальная комедия "Ах, водевиль, водевиль..."
8.30 "Дисней-клуб": "Русалочка".
9.00, 14.00 Новости.
9.15 Пока все дома.
9.50 Мультсеанс. "Стойкий оловянный солдатик".
10.10 Звездный час.
10.45 "Все путешествия команды Кусто".
11.40 Приключенческий фильм "Гардемарины - III".
13.25 Футбольное обозрение.
14.15 Премьера сериала "Мама, это я". 2-я серия.
14.45 Клуб путешественников.
15.35 "Дисней-клуб": "Тимон и Пумба".
16.00 "Дисней-клуб": "Аладдин".
16.30 "Помню...Люблю..."
17.00 "Колесо истории".
17.45 Майкл Дуглас в боевике "Черный дождь".
20.00 Время.
20.35 Комедия "Перекресток".
22.30 Михаил Пуговкин в программе "Абажур".
23.00 Премьера сериала "Золотые годы Стивена Кинга".

### "РОССИЯ"

7.00 Мультфильм.
7.10 "В пустыне и джунглях". Фильм для детей (Польша). 2-я серия.
8.30 "Великое закрытие", "Обезьяна с острова Саругасима". Мультфильмы.
8.50 Праздничное шоу Валентина Юдашкина.
11.55 "Три богатыря". Международный турнир по тяжелой атлетике.
13.00, 19.00 Вести.
13.30 "Щелкунчик". Мультфильм.
14.00 "На здоровье!" Ток-шоу.
15.00 Фестиваль боевых искусств.
16.00 Совершенно секретно.
17.00 Моя семья.
18.00 Старая квартира. Год 1987-й.
19.30 Дневник "Кадр "Кинотавра".
19.50 Армин Мюллер-Шталь в ретродраме "Помощник" (США).
21.50 Торжественная церемония закрытия кинофестиваля "Кинотавр".
23.35 Автомотоспорт: летнее кольцо.

### "КУЛЬТУРА"

9.10 "Золушка". Худ. фильм.
10.30 Документальные фильмы.
11.30 Новости культуры.
11.35 В.Киршон. "Чудесный сплав". Телеспектакль.
12.55 ...Запутанный сюжет.
13.00 "Вижу цель!"
13.30, 21.00 Новости культуры.
13.50 Отрывки из произведений А.С.Пушкина.
14.20 Играет В.Спиваков.
14.35 "Аляска-кид". Телесериал. 1-я серия.
15.25 "Цитаты из жизни". Академик В.Янин.
16.05 "Мачеха Саманишвили". Худ. фильм.
17.30 Новости.
17.35 "С.Альтов". Сатирический мини-сборник.
18.05 Счастливое искусство Анастасии Волочковой.
18.45 "Ланч длиной в десять лет". Док. фильм.
19.40 Чудо-сказка.
19.55 Л.Казарновская и Ф.Бонисолли в фильме "Портрет Манон".
21.20 "Pro memoria".
21.35 "Перемена участи". Х/ф.

### НТВ

7.00 Сегодня утром.
7.15 Худ. фильм "Гонщики".
8.40 "Фитиль".
9.00, 11.00, 15.00 Сегодня.
9.15 Вчера в "Итогах".
10.15 Куклы.
10.30 "Чистосердечное признание".
11.20 Впрок.
11.40 Своя игра.
12.10 Худ. фильм "Остров погибших кораблей". 1-я и 2-я серии.
14.30 "Русские горки".
15.30 "Она написала убийство".
16.30 Суд идет.

### "МОГИЛЕВ-1" на БТ

13.10 Пунктир.
13.40 Телелоцман.
14.00 Ток-шоу "Лестница".
14.40 ДАО.

### "МОГИЛЕВ-1"

17.30 "Школьный учитель".Телесериал.
18.20 Мультфильмы.
18.40 Бобруйский вариант.
19.00 Тяжелый день.
19.30, 21.00 Праздник в вашем доме.
20.20 Телемагазин.
20.30 День области.
20.50 Астро-дайджест.
21.35 "Еще раз про любовь". Худ. фильм.
23.10 День области.
23.20 "Вызов".Крим.драма.

### 2 КАНАЛ

18.00 "Реми". Мультсериал.
18.30, 21.30 Городские новости.
18.40 "Союзмультфильму — 60".
18.57, 20.45 Прогноз погоды.
19.00 "Белый попугай".
19.25 "Поздравления".
20.30 "В гостях у бабки Агапки".
20.47 "SOS дикой природы".
21.15 Высокая мода.
21.40 Триллер "Дом-4".
23.10 Спортивная программа.

## •• Вторник, 15 июня ••

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00,15.00, 17.00, 19.00, 0.20 Новости.
8.10 Политические диалоги.
8.35 Потребительская корзина.
8.53 Выпускной экзамен по белорусскому и русскому языкам за курс средней школы.
9.15 "На волне взаимопонимания".
10.05 Мультфильмы.
10.30 "Сегодня с вами..."
11.10 Новые имена.
11.20 "Верность любви".
12.00 Третий тайм.
12.30 "Незнакомая песня". Короткометражный худ.фильм БТ.
14.15 Бездельник.
14.45 "Белорусский свадебный каравай". Док.фильм.
15.15 "Боишься ли ты темноты?"
15.40 Мультфильмы.
16.35 Телеочерк.
17.15 Уроки Н.Новожиловой.
17.40 Гости в дом.
18.10 "Верность любви".
18.50 Новые имена.
19.15 "Алло, "Событие".
19.55 Спортивные новости.
20.15 Добрый вечер, Беларусь!
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 "Часы остановились в полночь". Худ.фильм.
23.40 Криминальная хроника.
23.45 Белорусский хит-парад.
23.50 Музыка без границ.
0.30 Бокс. Международный турнир памяти Героя Советского Союза Виктора Усова.

### ОРТ

16.00 "Во имя любви".
17.00 Новости.
17.15 Угадай мелодию.
17.45 Здесь и сейчас.
18.05 Тема.
18.45 Фильм "Титаник". Часть 1-я.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.40 Однако.
20.50 Приключенческий фильм "Их знали только в лицо".
22.30 Н.Сличенко, И.Понаровская, В.Пресняков и другие в программе "Без тебя, Шандор".
23.15 Новости.

### "РОССИЯ"

6.00 Доброе утро, Россия.
9.00 Психолог. драма "Водоворот".
10.00, 16.00, 19.00, 23.50 Вести.
10.35 "Уловка-22".
11.30 Моя семья.
12.25 Мультфильм.
13.00 Вести.
13.30 Драма "Ой вы, гуси..."
15.00 Мультфильм.
15.15 Музыка, музыка...
15.25 "Первые поцелуи".
16.30 "Башня".
17.00 "Второе я". Мультфильм.
17.10 Гомеопатия и здоровье.
17.15 "Крах инженера Гарина". Худ. фильм. 1-я серия.
18.35 У войны не женское лицо. Док. фильм "Это была не я".
19.40 Подробности.
19.50 "Аншлаг" представляет.
20.25 Сильвана Мангано в трагикомедии "Игра в карты по-научному".
22.30 Урмас Отт с Яковом Маршаком.
23.35 Дежурная часть.

### "КУЛЬТУРА"

7.05, 11.30, 13.30, 19.30, 23.00 Новости культуры.
7.25 Док. фильм.
8.20 Книжный кладезь.
8.35 "Версия 1999. Потомству верное преданье..." VI Театральный пушкинский фестиваль, г. Псков.
9.00 "Под знаком Скорпиона". Многосерийный телевизионный фильм. 1 с.
10.05 "Вижу цель!"
10.30 "Я всегда пою с удовольствием..." В.Маторин.
10.55 Отрывки из произведений А.С.Пушкина.
11.40 После новостей...
12.00 А.С.Пушкин. Подмосковные зарисовки.
12.10 К 175-летию Малого театра.
13.10 Э.Григ. "Норвежские танцы".
13.45 "Российский курьер".
14.24 Паноптикум.
14.30 Боярский двор.
15.00, 17.30 Новости.
15.10 "Лукоморье".
15.30 "Аляска-кид". 2-я серия.
16.20 Народные умельцы.
16.35 "Царская ложа". В.Чернушенко.
17.15 Ортодокс.
17.40 "Ноу-хау".
17.55 Клод Дебюсси. "Три ноктюрна".
18.20 Имант Зиедонис. "Эпифании". Спектакль БТ.
18.40 "Сладкая греза". Док. фильм. 1 с.
19.15 Чудо-сказка.
19.50 "Богема". А.Жирардо.
20.30 Симфонические миниатюры русских композиторов.
20.45 После новостей...
21.05 "Под знаком Скорпиона". Многосерийный телевизионный фильм. 1с.
22.10 "Цветная эмаль". Художница В.Волкова.
22.25 "В.Третьяков. Посвящается учителю..."

### НТВ

6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00 "Сегодня утром".
8.10 "Чистосердечное признание".
8.40 Мультфильм.
9.00, 11.00, 13.00, 15.00 Сегодня.
9.15 Герой дня без галстука.
10.05 Своя игра.
10.30 Дог-шоу. Я и моя собака.
11.30 "Тени исчезают в полдень".
13.30 "Она написала убийство".
14.20 Сегоднячко.
15.30 "Возвращение в Брайдсхед".
16.30 Впрок.
16.55 "Любовь и тайны Сансет Бич".

### "МОГИЛЕВ-1" на БТ

13.15 Тяжелый день.
13.40 Бобруйский вариант.
14.00 Мультфильм.

### "МОГИЛЕВ-1"

17.30 "Школьный учитель".Сериал.
18.20 Катастрофы.
18.45 Мультфильмы.
19.00 Служба ваших забот.В студии Григорий Хоменко.
19.40, 21.00 Праздник в вашем доме.
20.20 Телемагазин.
20.30 День области.
20.50 Астро-дайджест.
21.35 "Кто я?".Комедия.
23.25 День области.
23.35 "В то самое время".Драма.

### 2 КАНАЛ

18.00 "Реми". Мультсериал.
18.30 Муз. антракт.
18.40 "Союзмультфильму — 60".
18.57, 20.40 Прогноз погоды.
19.00 "Удивительные истории".
19.25 "Поздравления".
20.30 Мультфильм.
20.43 "Цунами".
21.35 Высокая мода.
21.40 "Без свидетелей". Худ. фильм.
23.05 Спортивная программа.

## •• Среда, 16 июня ••

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00,15.00, 17.00, 19.00, 0.10 Новости.
8.00 "Алло, "Событие".
8.40 Потребительская корзина.
9.15 Короткометражные худ. фильмы для детей.
10.05 "Земляки".
11.10 Новые имена.
11.20 "Верность любви".
12.05 Око.
12.25 Зорная ростань.
13.15 Видимо-невидимо.
14.25 Ток-шоу "Карамболь".
15.10 "Боишься ли ты темноты?"
15.35 "Пушкин. Линия судьбы". Телеочерк.
16.00 "5х5".
16.30 "Куда пойти учиться?"
17.10 "Природа сфинкс — и тем она верней". Док.фильм.
17.35 "Судьба моя и надежда".
18.05 "Верность любви".
18.45 "Неманская радуга".Видеофильм.
18.50 Новые имена.
19.15 "Сегодня с вами..."
19.45 Спортивные новости.
20.05 Добрый вечер, Беларусь!
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 Худ.фильм "Барнум"(США).
23.30 Криминальная хроника.
23.35 Белорусский хит-парад.
23.40 Королевская охота.
0.20 Темная комната. Дайджест.
0.45 Мотоспорт. Супербайк-99.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00 Новости.
8.15 "Во имя любви".
9.15 Тема.
9.55 Мультсеанс. "Как лечить удава?"
10.10 В мире животных.
11.15 Программа "Вместе".
14.15 "Гарри — снежный человек".
14.45 Классная компания.
15.00 Зов джунглей.
15.30 ...До шестнадцати и старше.
16.00 "Во имя любви".
17.15 Маски-шоу.
17.45 Здесь и сейчас.
18.05 Человек и закон.
18.45 Фильм "Титаник". Часть 2-я.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.40 Однако.
20.50 Боевик "Семья полицейских".
22.30 К 70-летию чемпиона мира по шахматам Т.В.Петросяна.
23.00 Новости.

### "РОССИЯ"

16.00, 19.00, 23.35 Вести.
16.30 "Башня".
16.55 "Нивея": секреты красоты.
17.05 Мультфильм.
17.15 Гомеопатия и здоровье.
17.20 "Крах инженера Гарина". 2-я серия.
18.35 У войны не женское лицо. Док. фильм. "Стрелять хотела..."
19.40 Подробности.
19.50 Сам себе режиссер.
20.25 Комедия Клода Зиди "Глуп, но дисциплинирован" (Франция).
22.15 Сиреневый туман.
23.20 Дежурная часть.
0.05 Автошоу.
0.35 Магазин на диване.

### "КУЛЬТУРА"

9.10 "Под знаком Скорпиона". 2-я серия.
10.05 Дайте, дайте мне Раневскую!
10.55 "Сладкая греза". Док. фильм. 1-я серия.
11.30, 13.30, 19.30, 23.00 Новости культуры.
11.40 После новостей...
12.00 А.С.Пушкин. "Пиковая дама". Часть 1-я.
12.30 Играет Максим Федотов.
12.50 "Возраст души". Художник Май Митурич.
13.45 Страна Фестивалия.
14.10 Шедевры мирового музыкального театра.
15.00, 17.30 Новости.
15.10 "Лукоморье".
15.30 "Аляска-кид". 3-я серия.
16.20 "С потолка".
16.45 Романсы П.И.Чайковского и Н.А.Римского-Корсакова.
17.00 Экспедиция "Чиж".
17.40 "Кто мы?"
18.20 Живое дерево ремесел.
18.30 "Сладкая греза". Док. фильм. 2-я серия.
19.15 Чудо-сказка.
19.50 Жизнь и судьба И.Моисеева.
20.50 После новостей...
21.10 "Под знаком Скорпиона". 2-я серия.
22.10 Вспоминая конкурс им. П.И. Чайковского.
22.30 "Театр моей памяти".

### НТВ

6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00 "Сегодня утром".
8.10 "Любовь и тайны Сансет Бич".
9.00, 11.00, 13.00, 15.00 Сегодня.
9.20 Музыкальный фильм "Колыбельная".
10.40 "Среда".
11.30 А.Калягин и Ю.Яковлев в фильме "Дети чугунных богов".
12.45 Мультфильм.
13.30 "Детектив Нэш Бриджес".
14.20 Телеигра "Пойми меня".
14.45 Мультфильм.
15.30 "Возвращение в Брайдсхед".
16.30 Впрок.
16.55 "Любовь и тайны Сансет Бич".

### "МОГИЛЕВ-1" на БТ

14.25 Служба ваших забот. В студии Григорий Хоменко.

### "МОГИЛЕВ-1"

17.30 Мужской клуб."Любовь и ненависть".
18.20 ДАО.
18.40 Ток-шоу "Лестница".
19.15, 21.00 Праздник в вашем доме.
20.20 Телемагазин.
20.30 День области.
21.50 Астро-дайджест.
21.35 "В тылу врага".Боевик.
23.00 День области.
23.10 Спорт планеты.

### 2 КАНАЛ

18.00 "Реми". Мультсериал.
18.30, 21.30 Городские новости.
18.40 "Союзмультфильму — 60".
18.57, 20.45 Прогноз погоды.
19.00 "Случайный свидетель".
19.25 "Поздравления".
20.30 "В гостях у бабки Агапки".
20.47 "Пляж".
21.40 Триллер "Патриоты".
23.05 Спортивная программа.

## •• Четверг, 17 июня ••

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00,15.00, 17.00, 19.00, 23.55 Новости.
8.10 "Сегодня с вами..."
8.40 Потребительская корзина.
9.10 Королевская охота.
9.40 Телевизионный Дом кино.
10.05 Мультфильмы.
11.10 Новые имена.
11.20 "Верность любви".
12.05 Наш край.
12.25 "А музыка звучит..."
13.10 "Его батальон". Худ.фильм. 1-я с.
14.15 "А где мне взять такую песню..."
14.35 Телеочерк.
15.15 "Боишься ли ты темноты?"
15.40 Мультфильмы.
16.10 "Вот здесь я живу". Телеочерк.
16.30 Гости в дом.
17.10 "Трактору "Беларусь" — 50 лет".
17.40 Усадьба.
18.10 "Верность любви".
18.50 Новые имена.
19.15 Политические диалоги.
19.40 Спортивные новости.
20.00 Добрый вечер, Беларусь!
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 Худ.фильм "Клетка для обезьяны".
23.15 Криминальная хроника.
23.20 Белорусский хит-парад.
23.25 Крок.
0.05 Футбол. Чемпионат Республики Беларусь. "Белшина" (Бобруйск) — "Днепр-Трансмаш" (Могилев). 2-й тайм.
1.00 Акколада.

